www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 51 (3894)

3 ліпеня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

***Нізкі паклон ветэранам, удзельнікам Вялікай Айчыннай вайны, усім, хто набліжаў Перамогу!***

# 3 ліпеня 1944 года пасля 1100 дзён акупацыі Мінск быў вызвалены ад нямецкіх войскаў

***На франтах Вялікай Айчыннай вайны змагаліся 1 мільён 300 тысяч беларусаў і ўраджэнцаў рэспублікі. Каб разбіць германскую групу армій "Цэнтр", Вярхоўнае камандаванне Чырвонай Арміі распрацавала план "Баграціён" — адной з буйнейшых ваенных аперацый. Праводзілася яна з 23 чэрвеня па 29 жніўня 1944 года***

На беларускай зямлі нямецкія захопнікі спалілі і разбурылі 209 з 270 гарадоў і раённых цэнтраў (на 80—90 працэнтаў былі разбураны Мінск, Гомель, Віцебск), 9200 вёсак.

***

Эканоміка рэспублікі па прамысловых і энергетычных магутнасцях была адкінута на ўзровень 1913 года. Акупанты спалілі і разбурылі 100.465 прамысловых вытворчых будынкаў.

***

За час акупацыі гітлераўцы правялі на тэрыторыі Беларусі 140 карных аперацый, падчас якіх поўнасцю альбо часткова знішчылі 5454 вёскі.

***

У Германію на прымусовыя работы было вывезена каля 400 тысяч чалавек (у тым ліку 24 тысячы дзяцей).

***

Статыстыка сведчыць: калі да вайны ў Беларусі пражывала 9,2 мільёна чалавек, то ў канцы 1944 г. — 6,3 мільёна.

***

Звесткі аб сілах праціўнікаў адрозніваюцца ў розных крыніцах. Паводле інфармацыі выдання "Аперацыі савецкіх Узброеных сіл у ВАВ", з савецкага боку ў аперацыі бралі ўдзел 1 мільён 200 тысяч чалавек. З нямецкага боку (у складзе групы армій "Цэнтр") — 850—900 тысяч чалавек.

***

Аператыўны план "Баграціён" пачаў распрацоўвацца Генштабам у красавіку 1944 г. і лічыўся вельмі амбіцыёзным, бо ў адзін момант разбіць цэлую групу армій — такое рэдка планавалася.

***

Згодна з адной з версій, падчас аперацыі спачатку планавалася нанесці адзін моцны ўдар, але Ракасоўскі на нарадзе ў Стаўцы прапанаваў два ўдары, пасля чаго разгарэлася спрэчка. Спрэчку спыніў Сталін, які заявіў, што настойлівасць камандуючага фронтам пацвярджае прадуманасць аперацыі.

***

З пункту гледжання нямецкага камандавання групе армій "Цэнтр" нічога не пагражала, а актывізацыю савецкіх войскаў палічылі манеўрам, мэта якога — пусціць пыл у вочы. Сітуацыя ў Беларусі лічылася стабільнай.

***

Падчас аперацыі ў Беларусі дзейнічалі шматлікія партызанскія фарміраванні, за лета 1944 г. з войскамі Чырвонай Арміі злучыліся 194.708 партызан.-

***

Падзеі ў Беларусі прывялі Гітлера ў шаленства. 28 чэрвеня ён зняў генерал-фельдмаршала Э.Буша з пасады камандуючага групай армій "Цэнтр" і прызначыў на яго месца генерал-фельдмаршала В.Модэля.

***

1—2 ліпеня 1944 г. немцам удалося эвакуіраваць з Мінска больш за 20 тысяч раненых і тылавікоў.

***

Абарона Мінска была вельмі кароткай — ужо ў 13.00 3 ліпеня горад быў вызвалены. 5 ліпеня з "Мінскага катла" немцамі была паслана апошняя радыёграма камандаванню групы армій: "Скіньце з самалёта хаця б карты мясцовасці. Ці вы ўжо спісалі нас?"

***

Камандзіры Чырвонай Арміі дастаткова крытычна ацэньвалі дзеянні па разгроме "Мінскага катла". Камандуючы 2-м Беларускім фронтам генерал Захараў казаў так: "Ліквідацыя акружаных груповак ідзе вельмі марудна і неарганізавана. У выніку нерашучасці асобных камандармаў немцы ў пошуках выхаду нападаюць на штабы корпусаў і армій, склады, на аўтакалоны".

***

8—9 ліпеня арганізаванае супраціўленне нямецкіх войскаў у Мінску было зламана. Да 12 ліпеня працягвалі ачышчаць тэрыторыю горада і наваколля ад груп акружэнцаў. Больш за 72 тысячы нямецкіх салдат трапілі ў палон, каля 35 тысяч — загінулі. У "Мінскі кацёл" трапіла 105 тысяч гітлераўцаў.

***

52 часцям і злучэнням, якія адзначыліся пры вызваленні горада, прысвоены ганаровыя найменні "Мінскіх". У гонар вызвалення сталіцы Беларусі ў Маскве быў дадзены салют 24 артылерыйскімі залпамі з 324 гармат. 2-і гвардзейскі танкавы корпус і 4-я гвардзейская танкавая брыгада былі ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. 16 танкістаў за подзвігі пры вызваленні Мінска і Мінскай вобласці сталі Героямі Савецкага Саюза.

***

3 ліпеня вызвалены Глыбоцкі, Пухавіцкі, Бярэзінскі, Ільянскі, Радашковіцкі і Астравецкі раёны.

***

28 ліпеня войскі 61-й арміі пры садзейнічанні часці сіл 70-й і 28-й армій вызвалілі Брэст. З вызваленнем Брэста было завершана вызваленне тэрыторыі Беларусі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Да канца ліпеня Беларусь была поўнасцю ачышчана ад немцаў, пачалося вызваленне Літвы, Латвіі і Польшчы. У ходзе аперацыі "Баграціён" лінія фронту была адкінута на захад на 600 кіламетраў.

***

Агульныя страты немцаў летам 1944 года перасягнулі тыя, якія яны панеслі на Волзе, пад Сталінградам. На тэрыторыі Беларусі было знішчана больш за 381 тысяч і ўзята ў палон 158 тысяч гітлераўскіх салдат, афіцэраў і генералаў.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## Не забіць мяч у свае вароты

Стараюся глядзець чэмпіянат свету па футболе, застаючыся нейтральным і аб'ектыўным. Ціха балею за сваю любімую Галандыю. Радуюся прыгожай гульні Неймара, Месі ці Ван Персі. Перажываю, калі чылійцы прайграюць па пенальці бразільцам, бо ніколі зборная Чылі не выйгравала ў Бразіліі на іх полі, хоць правяла там ажно 26 сустрэч.

Але спорт — гэта не толькі галы, ачкі, секунды. Гэта яшчэ і палітыка, унутраны светапогляд чалавека. Вось, напрыклад, не так даўно былы галоўны трэнер нацыянальнай зборнай Беларусі Анатоль Байдачны выказаў здзіўленне, што, аказваецца, далёка не ўсе беларусы балеюць за Расію. Ды яшчэ падліў алею ў агонь праз некалькі дзён.

*"За Галандыю не перажываю — іх зборная мне не падабаецца,* — заявіў Байдачны. — *І да самой Галандыі ў мяне перадузятасць, таму што гэтая краіна супраць Расіі. З гэтай жа нагоды наогул не балею зараз за каманды з Еўропы".*

На форуме pressball.by больш за 70 працэнтаў балельшчыкаў назвалі такую заяву трызненнем, а легендарны форвард мінскага "Дынама" Міхаіл Мустыгін адказаў Байдачнаму яшчэ больш ёміста: *"Пры чым тут беларусы і зборная Расіі? Глупства нейкае. Байдачны сам, здаецца, з Расіі, дык, калі яму так падабаецца, няхай за яе і балее. Я таксама родам адтуль, але перажываю за добры, якасны футбол. Пры чым тут Расія? Калі б Беларусь там гуляла — справа іншая, сапраўды трэба было б падтрымліваць сваю каманду. А Расія нам што за арыенцір? Мы што, жывём там?"*

І на самай справе: што нам за арыенцір — Расія? Балець за іх толькі таму, што яны з былога Саюза? Ці я не павінен перажываць за Галандыю і еўрапейскія каманды толькі таму, што "гэтыя краіны супраць Расіі"? Поўная лухта!

Гэта — не нацыяналізм, не русафобства, а здаровы сэнс, хоць апошнім часам можна заўважыць пэўную тэндэнцыю: многія беларускія балельшчыкі перасталі балець не за расійскіх спартсменаў, а за Расію з-за яе палітыкі. На чэмпіянаце свету па хакеі, які праходзіў у Мінску, я бачыў шмат хакейных аматараў, якія жадалі перамогі сапернікам расіян, хоць у той жа час былі ў захапленні ад гульні таго ж Авечкіна ці Малкіна. Гэта, напэўна, такая своеасаблівая рэакцыя ў адказ на расійскую агрэсію што ў палітыцы, што ў спорце. "Бараніся, рускія ідуць!" Але ж ставіць знак роўнасці паміж спартсменамі і палітыкамі — гэта як блытаць чырвонае з гарачым.

Але Бог з імі, з расіянамі. Чаму беларусам не захоўваць і не развіваць сваё? Тыя ж спартыўныя трансляцыі на роднай мове на Беларускім тэлебачанні сталі ў апошні час хутчэй выключэннем, чым правілам. А вы паглядзіце, як зладжана і прыгожа вядуць рэпартажы на мове Дзмітрый Герчыкаў і Павел Баранаў! Хто-небудзь што-небудзь не зразумеў? Не думаю. Тады чаму мы аддаём прыярытэт рускай мове?

*"Працаваць на беларускай мове — гэта сапраўдная радасць,* — сказаў неяк Павел Баранаў. — *Вельмі шмат слоў удзячнасці і падтрымкі. Усім астатнім каментатарам магу толькі параіць таксама пераходзіць на мову. Для гэтага перш за ўсё неабходна жаданне і разуменне таго, дзеля чаго ты ўсё робіш".*

Вось-вось — жаданне і разуменне. Калі будзе разуменне, што мы — нацыя, што маем родную мову і нагоды ганарыцца ў першую чаргу "сваім", тады і Байдачны не будзе так здзіўляцца, што, "аказваецца, далёка не ўсе беларусы балеюць за Расію".

У адваротным выпадку, як кажуць, заб'ём мяч у свае вароты...

**Алесь СІВЫ.**

ЧУЛІ?

## Аляксандр Лукашэнка загаварыў па-беларуску. Бярыце прыклад...

*"Семдзесят гадоў назад, у ліпені тысяча дзевяцьсот сорак чацвёртага года з беларускага Дома Урада быў зрынуты галоўны нацысцкі сімвал — злавесная чорная свастыка. Гэтыя некалькі велічных імгненняў адлюстравала кінахроніка. І з той пары знакаміты кадр з толькі што вызваленага Мінска стаў адным з яркіх сімвалаў краху нацызму. У той далёкі дзень сталіца нашай Радзімы стала вольнай. І глыбока сімвалічна, што менавіта трэцяга ліпеня з'яўляецца галоўным дзяржаўным святам — Днём Незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Прыняўшы на рэферэндуме такое рашэнне, беларускі народ аднавіў сувязь часоў. Уся наша нацыя схілілася ў паклоне ўдзячнасці перад велічным подзвігам герояў, якія вызвалілі родную зямлю. У вогнішчы вайны згарэла жыццё кожнага трэцяга нашага суайчынніка. Былі разбураны больш за дзвесце гарадоў. Знішчаны амаль дзесяць тысяч вёсак і пасёлкаў. Сотні з іх спалены разам з людзьмі. Акупанты ўстроілі на беларускай зямлі страшны канвеер смерці, стварыўшы дзвесце шэсцьдзясят канцэнтрацыйных лагераў і сто дзесяць гета. Забываць пра гэта нельга! Памяць — гэта трывожны звон Гісторыі. Ён папярэджвае сусвет, што любая вайна — гэта вар'яцтва. Ён папярэджвае, што ні адна мэта не варта чалавечага жыцця..."*

Гэта цытата з выступлення Аляксандра Лукашэнкі на сёлетнім урачыстым сходзе ў гонар Дня Незалежнасці. Прычым не пераклад з рускай на беларускую мову. Аляксандр Лукашэнка сапраўды прамаўляў па-беларуску. Дзе-нідзе няправільна ставіў націск, дзе-нідзе ўжываў няправільныя граматычныя формы і калькі з рускай мовы, не здолеў давесці прамову па-беларуску да канца. Але беларуская мова з вуснаў кіраўніка беларускай дзяржавы нарэшце загучала. І гэта пахвальна, з'яўляецца добрым прыкладам для чыноўнікаў усіх рангаў.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

ПАД ГРАДУСАМ

## У ліпені будзе спякотна, але мокра?

*Сіноптыкі абяцаюць сонечнае і па-сапраўднаму летняе надвор'е.*

— Ліпень у апошнія гады нас радуе цёплым і нават у асобныя дні гарачым надвор'ем, — *распавядае сіноптык* ***Дзмітрый Рабаў****.* — Вось і ў гэтым годзе ён не расчаруе. Ліпень — звычайна самы цёплы і вільготны, самы сонечны, самы ягадны месяц у годзе. Сярэдняя месячная тэмпература паветра ліпеня ў параўнанні з чэрвенем павышаецца на 1—2°С.

У гэтым месяцы ў Беларусі чакаецца тэмпература паветра на 1°С вышэй за кліматычную норму, месцамі каля яе (норма — +17...+19°С).

Колькасць ападкаў — у межах сярэдніх шматгадовых значэнняў, месцамі больш, чым звычайна. У сярэднім у ліпені бывае ад 12 да 16 дзён з дажджом, і выпадае 74—97 мм ападкаў (кліматычная норма). Пры цыкланічным характары надвор'я ў асобныя гады колькасць ападкаў можа ў 2—3 разы перавышаць норму.

Дарэчы, самым вільготным быў ліпень 2000 года, калі ў сярэднім па краіне выпала 161 мм ападкаў. Па асобных метэастанцыях колькасць ападкаў у гэтым месяцы можа дасягаць 160—297 міліметраў. Пры вельмі моцных ліўнях часам толькі за суткі выпадае да 148 мм ападкаў.

БЛІЦ

*У абласных цэнтрах і на вуліцах сталіцы ўсё часцей сталі распаўсюджвацца расійскія сцяжкі. Гэтыя акцыі выклікаюць жывыя дыскусіі. Адны не бачаць у іх нічога асаблівага, другія выступаюць катэгарычна супраць таго, каб у нашай краіне масава распаўсюджвалася чужая сімволіка. Мы вырашылі паставіць пытанне так:*

# *Чаму правядзенне такіх акцый стала магчымым на нашых вуліцах і як ставіцца да масавай раздачы сцягоў іншай дзяржавы?*

### Валянціна СВЯЦКАЯ, сябра аргкамітэта па стварэнні "Беларускага руху":

— Трэба дзейнічаць тымі метадамі, якімі дзейнічае беларуская ўлада, — выклікаць міліцыю і паведамляць, што адбываецца несанкцыянаванае мерапрыемства. Але і высновы трэба рабіць. Напрыклад, можна раздаваць бел-чырвона-белыя сцягі. Гэта ж наш гістарычны беларускі сцяг. Мне прыгадваецца, як я "аблажалася", калі працавала ў гаркаме партыі ў ідэалагічным аддзеле. Пачала там выказвацца, што бел-чырвона-белы сцяг — гэта сімвал фашысцкі, бээнэфаўскі і г.д. А на наступны дзень падышоў да мяне мой калега, які быў значна старэйшы за мяне, і кажа: "Валянціна Анатольеўна, вы ж працуеце ў ідэалагічным аддзеле. Трэба ж ведаць такія рэчы". Дастае том энцыклапедычнага слоўніка Бракгаўза і Эфрона за 1916 год і паказвае мне старонку з выявай гербаў гарадоў Беларусі. І тут я ўбачыла, што на ўсіх гербах бел-чырвона-белая стужачка. Мне стала сорамна. Я ж не праверыла інфармацыю, а паверыла нашым босам з ЦК кампартыі, якія нам укладвалі ў галовы прапаганду. Так што каму не падабаецца, што гэта наш сцяг, то няхай нырне ў Свіслач ці галавой у асфальт. А нам трэба цяпер казаць міліцыянерам, што "таварышы", якія раздаюць расійскія сцягі, хочуць, каб Аляксандр Лукашэнка больш не быў прэзідэнтам незалежнай краіны, а сама наша краіна стала Паўночна-Заходнім краем Расійскай Федэрацыі.

### Алесь ТАЎСТЫКА, прадпрымальнік:

— У дадзеным выпадку — як з уратаваннем хворага: усе рэчы добрыя. Я не заклікаю да фізічнага гвалту, але трэба ўважліва прасачыць, хто дазволіў ладзіць такія акцыі. Лічу, што трэба замовіць невялічкія бел-чырвона-белыя сцяжкі і наладзіць іх раздачу з дапамогай мясцовых актывістаў. Паглядзім, якая будзе рэакцыя. Калі расійскія раздаваць можна, то чаму бел-чырвона-белыя — не? Я лічу, што раздача расійскіх сцяжкоў — гэта адзін са знакавых момантаў: ідзе праверка на нашу гатоўнасць "праглынуць" расійскае ўварванне.

### Алег ТРУСАЎ, старшыня ГА "Таварыства беларускай мовы":

— Можна дзякаваць, калі прапануюць расійскі сцяжок, але не браць яго, бо ў нас свае ёсць. А ўвогуле з такіх раздач пачынаецца анексія Беларусі. Так пачыналася ў Крыме. Сцэнарый той жа самы. Вось і войскі на парадзе з расійскімі сцягамі. Пры чым тут яны? Сумесная перамога? Чаму тады толькі расійскія сцягі, а не ўсіх тых краін, народы якіх ваявалі супраць Германіі? Так што людзі павінны быць пільнымі.

### Алесь МАКАЕЎ, каардынатар Мінскага гарадскога савета прадпрымальнікаў:

— Трэба раздаваць нашы беларускія сцягі. Нашы людзі з задавальненнем бралі б іх. А вось раздачу расійскай сімволікі трэба спыняць. Як? Выклікаць міліцыю, фатаграфаваць, выкладаць твары тых, хто гэта робіць, у інтэрнэце. Калі за рулём — сігналіць. Адным словам, не даваць праводзіць такія акцыі. У паветры ж лунае вайна. Нельга дапусціць, каб у нас было, як у Данбасе, калі за свой украінскі сцяг там людзі могуць атрымаць кулю ад "зялёных чалавечкаў".

### Дзяніс САДОЎСКІ, адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя":

— У мяне быў выпадак, калі мне прапаноўвалі чорна-аранжавую стужку. Я тады сказаў, што для мяне гэта сімвал расійскай агрэсіі і акупацыі чужых тэрыторый. Пытанне ў тым, хто дазваляе такія раздачы. Некаторыя бяруць і стужкі, і расійскія сцяжкі. Заўважаю, што значна больш сцягоў стала ў салонах аўто. А гэта ж адна з формаў замбіравання. Людзей прывучаюць да таго, што тут расійская зямля, і для абывацеля расійская сімволіка робіцца звыклай. На мой погляд, гэта планамерная праца расійскіх структур, а не якое-небудзь нявіннае свавольства. Апошнім часам можна пачуць, што Аляксандр Лукашэнка не падтрымлівае Пуціна, і гэта ўжо шмат каму не падабаецца. То бок для многіх нашых землякоў Пуцін стаў станоўчым героем, які дбае пра сваю краіну і пра свой народ. Зразумела, за гэта трэба "падзякаваць" і расійскаму тэлебачанню, якое глядзіць усё беларускае насельніцтва, бо якасць нацыянальнага ТБ яшчэ горшая.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ФУТБОЛ: ЧЭМПІЯНАТ СВЕТУ-2014

## *Еўропа супраць Лацінскай Амерыкі: хто каго?*

*Сёння на чэмпіянаце свету па футболе пачынаюцца чвэрцьфінальныя гульні.*

Іх засталося толькі восем — лепшых сярод лепшых. Астатнія адправіліся дадому. Хтосьці аказаўся непадрыхтаваным да турніру, камусьці "дапамаглі" суддзі, камусьці проста не пашэнціла.

Але першынство працягваецца, і самае цікавае, што ў чвэрцьфінал выйшлі чатыры еўрапейскія і чатыры лацінаамерыканскія каманды. Тым больш цікава будзе назіраць за такім своеасаблівым супрацьстаяннем двух кантынентаў.

Дарэчы, букмекеры лічаць што пераможцам мундзіялю стануць гаспадары чэмпіянату — зборная Бразіліі.

**Расклад чвэрцьфінальных гульняў**

**4 ліпеня**

Францыя—Германія (пачатак матча — 19.00, час беларускі)

Бразілія—Калумбія (23.00)

**5 ліпеня**

Аргенціна—Бельгія (19.00)

Галандыя—Коста-Рыка (23.00).

**Алесь СІВЫ.**




ПРАТЭСТ

# Мінск здрадзіў?

## *Стыхійны страйк прадпрымальнікаў можа стаць канцом кар'еры Анатоля Шумчанкі*

Індывідуальныя прадпрымальнікі ў шэрагу гарадоў Беларусі 1 ліпеня прыпынілі працу на рынках і ў гандлёвых цэнтрах. Яны сцвярджаюць, што выканаць патрабаванні ўказа №222 аб абавязковай сертыфікацыі тавараў немагчыма.

Страйк адбыўся ў Баранавічах, Слоніме, Магілёве, Віцебску, Гомелі, Пінску і некаторых іншых гарадах. А вось сталічныя дробныя гандляры пратэст не падтрымалі. І сёння прадстаўнікі рэгіёнаў абвінавачваюць сваіх мінскіх калег у здрадзе.

— Віцебскія ініцыятары кампаніі — "Смаленскі рынак", "Эвіком" з Полацка, "Паўднёвы", "Чкалаўскі", часткова — "Кантынент", "Вольга" — проста не выйшлі на працу, — расказала каардынатар аргкамітэта па стварэнні прафсаюза прадпрымальнікаў "Разам", прадстаўнік гандлёвага цэнтра "Эвіком" **Ірына Яскевіч**. — Нас падтрымалі каля 90% прадпрымальнікаў, якія выплачваюць адзіны падатак. Мы прынялі рашэнне стаяць да таго часу, пакуль не атрымаем адказ на пытанні, якія нас хвалююць. Днямі мы збіраемся яшчэ раз і будзем вырашаць, што і як рабіць далей. Не разумеем пазіцыю Мінска, які не падтрымаў рэгіёны, які фактычна нам здрадзіў. Намеснік старшыні грамадскага аб'яднання прадпрымальнікаў "Перспектыва" Вячаслаў Піліпук сцвярджае, што ў мінскіх прадпрымальнікаў за 20 гадоў назапасілася "падушка бяспекі". Не ведаю, можа, у іх і кіслародная падушка ёсць, але нам сітуацыя незразумелая...

У сувязі з гэтай сітуацыяй сур'ёзныя прэтэнзіі ў прадпрымальнікаў з рэгіёнаў узніклі да арганізацыі прадпрымальнікаў "Перспектыва" і да яе кіраўніка Анатоля Шумчанкі.

— Мы запыталіся ў Шумчанкі: чаму форум прадпрымальнікаў прайшоў толькі 30 чэрвеня, за дзень да таго, як новыя правілы набылі моц? Чаму ты, лідар, не ідзеш "у поле", не працуеш з людзьмі? Чаму Мінск не падтрымаў пратэст рэгіёнаў?

Анатоль Шумчанка, каментуючы сітуацыю, адназначна заявіў: "Па шляху ахвярапрынашэнняў мы не пойдзем". "Перспектыва" абрала шлях перамоў з уладамі, заклікала ўлады ўвесці мараторый на праверкі і стварыць працоўную групу для вырашэння праблем. Да страйкаў "Перспектыва" не заклікае і арганізоўваць іх не збіраецца.

"А каму патрэбны лідары, якія нікуды не пойдуць, нічога не робяць, а толькі даюць указанні?" — задае рытарычнае пытанне Ірына Яскевіч.

**Алег СНОЎ.**

ДАСЛОЎНА

*Анатоль ШУМЧАНКА, кіраўнік РГА "Перспектыва":*

# «Матросавы скончыліся»

"Мы пакуль не разглядаем магчымасць правядзення масавых акцый. Людзі павінны ўсвядоміць сябе часткай грамадства, у якога ёсць правы і абавязкі. Людзі павінны самі ўсвядоміць адказнасць за сваю будучыню і праяўляць ініцыятыву. Лідары праяўляюць ініцыятыву, іх садзяць у турмы, а народ як працаваў сабе спакойна, так і працуе. Хочуць і далей так працягваць?.. Такога больш не будзе. У нас ёсць свая стратэгія, свой план. Мы шаблонна дзейнічаць не будзем, тым больш не будзем гуляць па правілах, навязаных зверху. Няхай, у рэшце рэшт, маразм дойдзе да лагічнага канца. Хоць за маразм прыйдзецца заплаціць вельмі высокі кошт. Але людзі ўжо самі павінны ўсвядоміць: так жыць нельга. 7 красавіка, яшчэ да падпісання праблемных дакументаў, мы праводзілі форум прадпрымальнікаў у зале на 500 месцаў. Прыйшло 250 прадпрымальнікаў. А ў кожнай абыякавасці ёсць цана. Ці гатовы прадпрымальнікі плаціць любую цану за сваю абыякавасць?

Па шляху ахвярапрынашэнняў мы не пойдзем. Хачу сказаць прадпрымальнікам так. Вас заклікалі ўжо — не адзін раз і не адзін чалавек. Бясконцыя ахвяры не могуць працягвацца: альбо вы станеце народам, альбо застаняцеся "народцам", як вас абазвала адна вядомая асоба. Матросавы скончыліся".



ПАЗІЦЫЯ

## *ААН не указ?*

У Міністэрства юстыцыі Беларусі пададзены пакет дакументаў для рэгістрацыі Рэспубліканскага праваабарончага аб'яднання "ПАКТ" (Рух за рэалізацыю Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах).

Рашэннем устаноўчага сходу яго старшынёй абраны доктар юрыдычных навук, прафесар **Міхаіл Пастухоў,** яго намеснікам — **Віктар Карняенка,** выканаўчым дырэктарам — праваабаронца **Леанід Судаленка**.

Ствараемая праваабарончая арганізацыя і яе дзейнасць павінны будуць спрыяць выкананню Рэспублікай Беларусь сваіх міжнародных абавязацельстваў у пытаннях правоў чалавека. Стварэнне такой арганізацыі наспела даўно. Бо Беларусь з'яўляецца адным з лідараў па звароце грамадзян у ААН аб парушэнні правоў чалавека. На сёння Камітэтам ААН па правах чалавека вынесена амаль 60 рашэнняў па Беларусі, у якіх усталяваны тыя ці іншыя парушэнні грамадзянскіх і палітычных правоў грамадзян Беларусі, аднак ні адно з гэтых рашэнняў так і не выканана кіраўніцтвам нашай краіны.

Паводле слоў Леаніда Судаленкі, усе пададзеныя дакументы старанна праверaны юрыстамі, таму падстаў для адмовы ў рэгістрацыі тэарэтычна не мусіць быць. На яго думку, адмовіць у рэгістрацыі можна хіба што на той падставе, што "чарніла ў подпісах будзе не зусім фіялетавае".

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Белорусы хотят реформ, но по-разному их представляют

*Большинство белорусов хочет реформ, значительная часть даже готова терпеть их издержки, однако в обществе нет консенсуса по вопросу, какие именно изменения нужны стране.*

*Об этих и других результатах свежего соцопроса и серии интервью с представителями оппозиции и гражданского общества в интервью Naviny.by рассказала аналитик Белорусского института стратегических исследований (BISS)* ***Елена Артеменко.***

— Наше исследование было посвящено тому, как население Беларуси относится к реформам, — *рассказывает Елена Артеменко*. — Оно проводилось для информационной поддержки проекта "Реформум", который сейчас реализуется нашим институтом. В чем его суть? Чтобы разработать проекты реформ, важно знать, как люди в целом относятся к их проведению, нет ли у них негативных установок, неприятия возможных реорганизаций. С другой стороны, мы учитываем мнение населения для определения приоритетов в проектах реформ, которые будут разрабатываться нашими экспертными группами.

**— Были ли вы удивлены результатами опроса?**

— И да, и нет. С одной стороны, население Беларуси положительно относится к реформам. Это отличается от возможной картины в России и странах Центральной и Восточной Европы, в которых были реализованы структурные реформы, и население испытывало негативные последствия этих реформ. В Беларуси же под реформами понимают поступательное движение в той или иной сфере...

**— Правильно ли будет предположить, что отрицательного отношения к реформам нет потому, что они еще не проводились?**

— Да, конечно. Но мы спрашивали, готовы ли люди терпеть негативные последствия реформ. При этом перечисляли конкретные последствия именно структурных либеральных реформ: снижение уровня жизни, рост безработицы, инфляция, сокращение социальной поддержки. 15% сказали, что точно готовы, 35,8% — "скорее да, чем нет", 27% — "скорее нет, чем да" и 19,9% — "точно нет".

**— Какие именно реформы люди считают необходимыми?**

— Для семей на первом месте стоит сфера здравоохранения. Если говорить в целом о стране, то тут в первую очередь требуются реформы в экономике.

**— Как будет меняться заинтересованность белорусов в реформах и их готовность терпеть болезненные моменты?**

— Если структурные реформы не начнутся, то это рано или поздно приведет к ухудшению экономического положения населения. Экономисты не сомневаются в том, что существующая модель профункционирует еще достаточно долго.

На мой взгляд, если будет ухудшаться экономическое положение населения, люди начнут рассматривать реформы, которые они раньше считали важными только для страны в целом, как приоритет лично для себя и своей семьи. Это увеличит заинтересованность в реформах и готовность терпеть издержки.

Если реформы начнутся, то какие это будут реформы? Мы спросили респондентов, что должно реформироваться, предложив им на выбор несколько основных структурных реформ. Выяснилось, что люди видят под реформами мягкую либерализацию. Государственные и частные предприятия должны конкурировать в равных условиях, необходимо снижать налоговую нагрузку на частные предприятия, малые и средние предприятия должны быть приватизированы. Когда же мы спрашивали о таких мерах, как неограниченная собственность на землю, приватизация крупных государственных предприятий и свободное ценообразование, то получили наименьший результат.

Понятно, если в ходе реформ будет неконтролируемое ценообразование, что негативно скажется на покупательной способности, уровне жизни, то, вероятно, оценки реформ будут снижаться.

**— Отличается ли мнение "третьего сектора" от мнения всего общества?**

— Если среди общего населения на вопрос о необходимости реформ утвердительно отвечает 40% респондентов, то в общественных организациях таких 91%. Такая же доля представителей "третьего сектора" выступает за уменьшение роли государства.

В целом представители гражданского общества показали себя как очень демократическая и либерально настроенная группа. Большинство назвало политические реформы как самые приоритетные. Это и повышение роли парламента, и выборность местных органов власти, и реформа избирательного законодательства. У этих пунктов примерно одинаковая доля приверженцев — больше 70%.

Замечу, опрошенные достаточно низко оценили теперешний уровень взаимодействия "третьего сектора" с государством. Никто не сказал, что такое взаимодействие налажено. Только 18% считают, что гражданское общество и государство взаимодействуют, хотя и недостаточно. 39% сказали, что взаимодействие малоэффективно и не приносит результатов, и 40% опрошенных сказали, что гражданское общество с государством не взаимодействуют.

**Артем ШРАЙБМАН.**

ЧУЖОЙ КОШЕЛЕК

# Откуда деньги?

*За два года 24-летняя кобринчанка получила из-за границы более 120 тысяч долларов. Девушка забывала платить подоходный налог с денежных переводов, и в итоге сумма к уплате в бюджет достигла почти 160 миллионов рублей.*

— В 2012 и 2013 годах жительница Кобринского района (Брестская область) почти каждый месяц получала денежные переводы из-за границы, — *сообщает finance.tut.by со ссылкой на инспекцию Министерства по налогам и сборам по Кобринскому району*. — Их отправляли дальние родственники ее мужа. Таким образом в 2012 году девушка пополнила личный бюджет на 68,066 тысячи долларов, в 2013-м — на 53,262 тысячи долларов.

Доходы, полученные из-за границы не от близких родственников, необходимо декларировать, однако кобринчанка этого не сделала. Она не представила декларацию за 2012 год и не заплатила подоходный налог вовремя. Ей был выставлен "счет" на 82,3 миллиона рублей, из которых 13,1 миллиона — это пеня за несвоевременное исполнение налогового обязательства. Декларацию за 2013 год девушка подала в срок, но с выплатой подоходного налога снова запоздала. Налоговая инспекция представила к уплате 75,865 миллиона рублей.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Официантка на чаевые купила машину и мотоцикл

*Официантка одного из заведений Барановичского района по документам ежегодно зарабатывала около 5,5 млн белорусских рублей (в месяц это примерно 450 тысяч бел. рублей, или около 44 долларов). Внимание налоговой инспекции девушка привлекла после того, как купила иномарку за 20.000 долларов и мотоцикл за 1700 долларов.*

На вопрос сотрудников налоговых органов, откуда деньги на такие дорогостоящие покупки, девушка пояснила, что насобирала на технику благодаря щедрым чаевым клиентов. Вот только подтвердить, что клиенты барановичских ресторанов настолько богаты, что ежемесячно оставляют официантке по 2 тысячи долларов, было нечем. За жизнь не по средствам удачливую работницу общепита обязали уплатить 24 миллиона белорусских рублей подоходного налога.

**НАДО ПОМНИТЬ!**

**Представлять декларации по подоходному налогу обязаны граждане, получившие доходы от продажи в течение года более одного автомобиля, в течение 5 лет — более одной квартиры или другой недвижимости. Также необходимо декларировать доходы, полученные из-за границы от других физлиц, не являющихся близкими родственниками.**

